1933

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

ГОД ВЫДАНЬНЯ 5
ЖНІВЕНЬ 1933
№ 12

## УРЫЎКІ ЎСПАМІНАЎ

ЕЛ. НІНІНА

(З часопісі „Пионер“).

### Дзіцячыя гады

У дзяцінстве Валодзя быў жартаўлівы бойкі хлопчык. Вясёлыя галасы Валодзі і Волькі зьвінелі па ўсім доме.

Калі дзеці вельмі моцна пачнуць крычаць і бегаць, маці зьбірала іх каля піаніна і вучыла сьпяваць.

Валодзя любіў музыку, але і тут ён ня мог абыйсьціся бяз жартаў.

Дзеці любілі сьпяваць пра козьліка:

Жыў-быў у бабкі
Шэранькі козьлік...

Пальцы матчыны бегаюць па клавішах, Волька спачатку адна сьпявае, а потым усе падхватваюць прыпеў:

Вось як, вось як,
Шэранькі козьлік.

Усё ідзе дружна, стройна, але... ваўкі зьядаюць козьліка. Валодзя раптам перапыняе Вольку ды такім жаласным голасам сьпявае, як у козьліка асталіся толькі рожкі ды ножкі. Маленькі Віця, слухаючы гэта, пачынае адразу ўсхліпваць, а потым моцна плакаць ад жаласьці да козьліка, да бабкі і дзедкі.

Парадак песьні парушаны.

— Чаму ты гэта робіш, Валодзя?—пытаецца маці.

— Трэба яго прывучаць, а то вырасьце плаксай,—апраўдваецца Валодзя.

* * *

У 9 год Валодзя пайшоў у школу.

Усе лягчэй уздыхнулі: будзе заняты урокамі— менш дурэць будзе.



Валодзя быў лепшым вучнем у гімназіі, настаўнікі дзівіліся з яго здольнасьці. Калі старэйшыя садзіліся вучыць урокі, а меншыя ціха займаліся гульнёй у кубікі, Валодзя канешне ўмяшаецца ў гульню, пасьля чаго пачынаецца шум, піск, плач.

Бацька бярэ Валодзю ў свой пакой і пачынае правяраць урокі. Валодзя ведае ўсё.

29

56

## Школьнік—настаўнік

З кожным годам Валодзя станавіўся сур'ёзьней. У яго была вельмі каштоўная асаблівасьць характару—не баяцца труднасьцяй.

Будучы ў сёмай клясе, Валодзя вельмі добра падрыхтаваў народнага настаўніка ў вышэйшую школу. Настаўнік быў чувашын, дрэнна гаварыў па-руску, і ўсё-ж Валодзя ўзяўся і памог яму падрыхтавацца ў вышэйшую школу.

## Ён ня мог зрабіць іначай

Бацька Валодзі памёр у 1886 г.

Неўзабаве пасьля гэтага вялікага няшчасьця сям'я стрэла новую бяду—арышт Аляксандра, старэйшага брата Валодзі.

Валодзя вельмі любіў брата. Ён стараўся ва ўсім быць падобным да брата, жыць так як брат.

Аляксандр быў арыштаваны за тое, што ён зрабіў спробу забіць цара.

Блізкая знаёмая іхняй сям'і першай атрымала гэтую сумную вестку і перадала Валодзю.

Яна сачыла за Валодзям, калі той чытаў пісьмо. Твар Валодзі зрабіўся сур'ёзным, заклапочаным.

— Справа сур'ёзная. Для Сашы можа скончыцца дрэнна, — сказаў засмучоны Валодзя.

Матцы асьцярожна ласкава перадаў аб усім гэтым.

Спробы маткі дабіцца, каб пакараньне сьмерцю замянілі высылкай на вечнае пасяленьне, ня мелі посьпеху. Патрабавалі, каб Аляксандр пакаяўся.

— Толькі цябе, мама, шкада, — сказаў Аляксандр,—даруй мне. Пакаяцца не магу.

20-га мая 1887 г. Аляксандр быў павешаны.

Валодзя, успамінаючы апошнюю гутарку брата з маткай, гаварыў:

— Ён ня мог зрабіць іначай.

Моцна сьціснуў Валодзя кулак на ворага.

Вельмі добра скончыў Валодзя гімназію. Атрымаў за лепшыя посьпехі залатую мэдаль. Але ў вышэйшую школу — унівэрсытэт паступіць ня мог, як брат пакаранага Аляксандра.

І толькі з вялікімі труднасьцямі ўдалося паступіць яму вучыцца далей.

*(Канец будзе).*



Валодзя раптам перапыняе Вольку..




**Апавяданьне Ал. Пальчэўскага**

Сяголетнюю восень будзе доўга памятаць Юлік. З нецярплівасьцю чакаў ён гэтае пары. І вось яна прышла—у дзень першага верасьня.

Перад гэтым днём Юлік вясёлы ўбег ў хату і скоранька загаварыў да маткі. Ад радасьці ён расказваў толькі з большага, самае галоўнае:

— Ну, мамачка, заўтра пачынаецца.

— Што?.. — запытала зьдзіўлена маці, адхіліўшыся ад свае работы.

Але Юлік, заместа адказу, гаворыць далей:

— Сяголета пайду такі. Я і летась хадзіў-бы ўжо, каб сказаў, што мне восем год.

— Ты гэта пра школу, значыць?—здагадваецца маці.

— Ноле... Стаім мы на вуліцы, дык дзядзька Рыгор падыходзіць і кажа: „Заўтра ўсе, хто мае восем год, ідзеце ў школу".

Маці глядзіць на радаснага Юліка і падзадорвае яго, зьлёгку ўсьміхаецца.

— Дык табе-ж, сынок, восем год будзе праз чатыры тыдні. Ці прымуць яшчэ, што ты вельмі цешышся. Мала што Рыгор табе сказаў—ён член сельсавету і павінен загадаць.

— Прымуць,—упэўнена заяўляе Юлік.— Настаўнік летась сказаў, каб я прыходзіў сёлета. Усе мае таварышы: і Косьцік, і Міцька, і Гэнік ідуць, а я, па вашаму, застануся...

— Я нічога... Ідзі, вучыся адно добра, каб не сьмяяліся з цябе другія...

Але-ж ці трэба ўгаворваць, прыганяць Юліка на такую справу, як вучэньне. Яму каб толькі скарэй навучыцца чытаць, пісаць, а тады яго сілай не адцягнеш ад кніжкі. Юлік ніколі не дапусьціцца, каб пра яго гаварылі, як пра гультая, каб пісалі аб гэтым у газэце.

Гэта-ж у аднэй іх школе поўная шафа кніжак стаіць (школьнікі бяруць іх дахаты чытаць), а ў калгаснай бібліятэцы яшчэ больш. Ды такія цікавыя: пра розных зьвяроў, пра далёкія краіны, пра новыя вялікія гарады ды заводы, што пабудавалі працоўныя Савецкага Саюзу.

Пра ўсё знойдзе Юлік у кнігах. Кожны год будзе прыносіць Юліку разгадкі таго, што цяжка зразумець няпісьменнаму чалавеку.

І ад гэтага яшчэ большая радасьць агортвае Юліка. Вясёлы выбягае ён на вуліцу, расказвае сваім таварышам, што бацькі яго з ахвотаю адпускаюць у школу.

* * *

Шырокія прасторы адкрывае школа перад Юлікам. Па гэтых прасторах пойдзе ён далей і далей: з ніжэйшае групы ў старэйшую, з ніжэйшае школы аж да вышэйшай.

І кніжак з малюнкамі ня будзе болей Юлік прасіць у свайго старэйшага брата Андрэя. Ямуададуць лемантар новы з малюнкамі. Гэтага лемантара на ўсю зіму хопіць чытаць. А навучыцца чытаць—будзе і ён браць кніжкі з бібліятэкі дахаты, як бярэ Андрэй. Будзе Юлік чытаць голасна цікавыя апавяданьні, а бацькі будуць слухаць уважліва.

# Новенькая

Апавяданьне А. Дыла
Малюнак Г. Змудзінскага

Сёньня да нас у клясу прывялі новенькую дзяўчынку. Сама беленькая, паліто на ёй новенькае, а хустачка чырвоная.

— Як тваё імя?

Маўчыць.

— Ты спалохалася? — зноў пытаюцца школьнікі.

Маўчыць дзяўчынка.

— Вось я зараз скажу табе як нас завуць. Мяне—Рома. Вось гэта Маня, гэта Янка, а тая дзяўчынка—Галя. А цябе як?

Але маўчыць дзяўчынка, не адважваецца гаварыць.

— Ты можа нямая?

— Не, не нямая,—сказала настаўніца,— яна першы раз у школе і таму такая нясьмелая. Завуць яе Зінай.

— Зіначка, Зіначка? Ты ў нас у клясе адна Зіна. У нас дзьве Мані, два Кіма, тры Алесі і аж чатыры Міхасі, а Зіна ты адна толькі.

— Зіна, дзе ты сядзеш?

— Садзіся са мною.

— Са мною,—наперабой запрашаюць да сябе Зіну школьнікі.

— Няхай Зіна сядзе з Янкам Васюковічам. Ён добры хлапец і ён дапаможа ёй, калі яна чаго ня будзе ведаць.

— Добра, — сказала настаўніца, — сядай Зіна з Янкам.

У час адпачынку ўсе дзеці хацелі гуляць з Зінай.

— Зіначка, паглядзі наш ленінскі куток.

— Зінка, глянь якая ў мяне цікавая кніжка.

— Зіна, а ў нас у школе ёсьць трусікі. Хадзі я табе пакажу.

Бачыць Зіна, што ўсе добра да яе адносяцца—стала сьмялейшаю. Расказала яна дзецям, сваім таварышам, што бацька яе зараз на ўборачнай у калгасе, а мама працуе на фабрыцы. І пра ўзрост свой сказала:

— Мне восем год. А жыву я на Пралетарскай вуліцы.

Праз некалькі дзён Зіну і пазнаць нельга было,—якая яна зрабілася вясёлая, такая ахвотніца да вучэньня.

Добрая дзяўчынка наша новенькая Зіна. Мы яе ўсе любім.



Малюнкі В. Волкова



# Самавучка

**Зараз у нас уведзена ўсеагульнае навучаньне. Савецкая ўлада клапоціцца аб тым, каб усе дзеці працоўных вучыліся ў школах.**

**Раней, да рэвалюцыі, дзеці працоўных не маглі вучыцца. Школа была не для іх. Аб гэтым вы прачытаеце ў апавяданьнях „Самавучка“ і „У навуку да шаўца“.**

Надыходзіла восень. Часьцей пачалі сеяцца з густых хмар імжыстыя дажджы. У палёх, на іржэўніку, на верасох пасьціламіся белыя тонкія ніткі павуціны. Сям-там пажоўклі і асыпаліся з дрэў лісты.

У такі час у адной школе адбываліся экзамены: прымалі новых вучняў. Здаваць экзамены папрыходзілі і папрыяжджалі ўсё дзеці багатых бацькоў: паноў, чыноўнікаў, папоў, кулакоў. Адзін перад другім выхваляліся яны сваімі ведамі, сваімі багатымі вопраткамі, сваімі знатнымі бацькамі. І сапраўды нікога ня было тут у лапцёх або парванай сьвітцы, ці ў шарачковых штанох.

І вось неўзабаве пачаліся іспыты. Паступаючым далі пісаць работу па граматыцы. Усе ўважліва насупілі бровы, заскрыпелі пер'ямі.

Настаўнікі паселі кругом стала, а адзін з іх, высокі і цыбаты, пакручваючы вусы, важна тупаў сярод скамеек, як бусел сярод купін, і глядзеў за парадкам.

Як скончылася пісьмовая работа, пачалі настаўнікі правяраць веды паступаючых.

Раптам дзьверы школы шырока адчыніліся. Дзесяткі пар вачэй адразу глянулі ў той бок. Глянулі і настаўнікі, і вельмі-ж скрывіліся ад такой няпрыемнасьці. Работа была парушана. І кім? Нейкім жабраком.

— Тут ня дараць жабракоў,—грозна сказаў высокі настаўнік.—Не перашкаджайце нам.

Аднак жабрак зьняў шапку і, відаць, сабраўся нешта сказаць. Губы яго зашавяліліся. Але ў горле адразу перасохла, і сказаць ён пакуль што нічога ня мог. Гэта быў невялікі на рост, шчуплы хлапчук, гадоў 12. Адзеты ён быў зусім дрэнна: лапці з вераўчанымі аборамі, зрэбная шарачковая сьвітка, белыя палатняныя штаны. Шапка яго была выветрана і высмалена сонцам так, што з чорнай стала зусім рыжай. У руках хлопчыка была ядлаўцовая сукаватая палка, а за плячыма чорная зашмальцаваная ад доўгага ўжываньня торба з скарынкай сухога хлеба.

— Чаго-ж ты стаіш, асёл!—паўтарыў да яго настаўнік.—Ня бачыш, куды трапіў, ці што?

Але хлопчык набраўся сьмеласьці і сказаў:

— Я хацеў-бы таксама здаваць экзамен...

Усе настаўнікі зьдзіўлена пераглянуліся. А дзеці аж заржалі ад сьмеху.

Потым адзін з настаўнікаў устаў з месца і падышоў бліжэй да дзьвярэй. Ён яшчэ раз уважліва абвёў вачыма хлапчука і сам затросься ад сьмеху.

— А ці ведаеш-жа ты тое, што патрэбна для экзамену?—насьмешліва запытаўся ён.

— Думаю, што ведаю,—сур'ёзна адказаў хлопчык.

Тоўстаму настаўніку захацелася пацешыць сваіх сяброў.

— Ну, дык садзіся, чакай,—сказаў ён.

Хлопчык сеў на заднюю скамейку і пачаў прыслухоўвацца, што пыталіся ў другіх.

„Нічога страшнага,—разважаў ён.—Усё гэта я ведаю“.

Нарэшце настаўнікі, каб павесяліць сябе, сталі задаваць пытаньні таму хлопчыку. Ён ужо да гэтага часу зусім асьмеліўся і адказваў бойка і ясна. Яму сталі задаваць самыя цяжкія пытаньні, пыталіся ў яго нават тое, чаго ня трэба было для таго экзамену. І ён адказваў на ўсе пытаньні. Выявілася, што гэты хлопчык вытрымаў экзамен лепш за ўсіх.

— Хто цябе вучыў?—папытаўся высокі настаўнік.

— Ніхто. Я сам вучыўся, пасучы панскіх сьвіней у полі.

— Дык ты, значыць, пастух?

— Але, пастух. Мой бацька за парабка ў пана,—адказаў ён.

... Неўзабаве хлопчыку паведамілі, што такіх як ён у гімназію ня прымаюць.

— Калі ты будзеш вучыцца,—сказаў яму адзін настаўнік,—дык ня будзе каму пасьвіць панскіх сьвіней.

Заплаканым, ледзь зьмяняючы нага за нагу, ішоў той самавучка назад у панскі двор.







# У навуку да шаўца

Малюнкі В. Ціхановіча

Міколка прачнуўся рана, ледзь сьвітаць пачало, і падумаў: „У школу хаця-б не спазьніцца... Гэта-ж сёньня трэба ўжо ісьці“.

Ён скоранька саскочыў з куфэрка, дзе спаў, і стаў абувацца ды зьбірацца ў школу.

Раптам нейчы незнаёмы голас спытаў:

— Вось гэты?

— Гэты, — адказаў бацька.— Гэты самы.

Міколка азірнуўся, на лаўцы сядзеў чалавек у сіняй ватоўцы.

— Ты, сынок, у школу ня пойдзеш,—сказаў бацька.

— Чаму, татка?

— Вучыцца пойдзеш за шаўца...

— Чаму такія зьмены?..—ледзь не заплакаў Міколка.

Ён любіў школу, добра вучыўся і школа была для яго вялікай радасьцю.

— Жыць няма з чаго, сынок. Бачыш колькі вас. Карміць усіх трэба... трудна мне, сынок...

* * *

У кутку, калышучы дзіця, усхліпнула маці.

Міколка заплакаў.

— Я... вучыцца... хачу...—сказаў ён, выціраючы сьлёзы.

Бацька адвярнуўся. Шкода яму стала сына, але што зробіш.

— Не для нас, відаць, вучэньне. Нам, каб пракарміцца хаця якнебудзь.

І раптам злосна сказаў бацька:

— Вунь для каго вучэньне.

Праз сьлёзы Міколка паглядзеў

у вакно. Па вуліцы важна ішоў сын гаспадара ў новай шапцы, у новых галёшах і з кніжкамі за плячыма.

Міколка заплакаў яшчэ мацней.

— Перастань, ня хныкай, не ад'ядай сэрца,—злосна сказаў бацька і ўстаў з лаўкі.




— Так. Значыць, вырашылі? — сказаў шавец. — Пяць год будзе за хлеб рабіць, бяз ніякай платы, а там будзе відаць...

— Добра, бяры,— рашуча сказаў бацька і загадаў сыну:

— Адзявайся!

Міколка, ціха плачучы, пачаў зьбірацца на службу.

---

# У школу



Узбудзіўся Янка рана
І гайда на школьны ганак.
Ён сьпяшаецца вясёлы,
Не спазьніцца каб у школу.
Пад рукой у Янкі шмат
Кніжак розных і прылад,
Карандаш, каб запісаць
Усё, што трэба Янку знаць,
Чаму трэба навучыцца,
Што запомніць, не забыцца.
А між тым ля самай школы
Гоман, шум дзяцей вясёлы,
Жарты, гульні, звонкі сьмех
Толькі чутна: ох, ды эх!

Тут сягоньня ўсе дазваньня
Пазьбіраліся ад раньня:
Грышка, Паўлік і Адась,
Анупрэй, Макар і Стась,—
Усе прышлі сягоньня тут
Вывучаць навукі грунт.

**Д. С.**





# Атрад



Верш С. Маршака

Малюнкі Тырсы

Хто там, як віхура,
Прэ па маставой,
З чорнабурай скурай,
З голай галавой?

Лёгкая рубашка,
Штанішкі да кален,
На баку баклажка—
Сапраўды спартсмэн!

Шыбка ён шагае,
Весела пяе,
Стрэчнаму трамваю
Ехаць не дае.
Засланіў
Дарогу,
Тупае,
Як слон.
Чуеце,
Як многа



У яго імён?
Сёмка ён
І Варка,
Фомка ён
і Ларка,
Юрачка
І Ёська,
Райка
І Антоська!

Кажуць людзі:—Гэта, брат,
Піанэрскі наш Атрад.

Хто гэта над рэчкай
На пясочку белым
З раніцы да змроку
Смугліць сваё цела?

Загарэлі плечы,
Нібы хлеб у печы!
А сьпіна і шыя,
Як асмолкі тыя!
Дзе-ж яго рубашка?
Штанішкі яго дзе?
Дзе яго баклажка?
Ня відаць нідзе.

Скура загарэлая,
Чорная, як смоль,—
Вось яго адзежына
І нічога больш.

Узяўся за работу
У дзьве сотні рук—
Зьліўся у грымоту
Стогалосы гук!



Як пайшоў на сенажаць
Ён за стогам стог кідаць—
Узьлятае сена,
Сена па калена—
З васількамі,
Са смалянкаю,
З жоўтымі румянкамі!

Кажуць людзі:—Ну і хват!
Стоўдарніцкі Атрад.



На узгорку новы дом —
Вокны сьветлыя кругом.
Ў вышыні жаўцее дах,
Чырванее ў небе сьцяг.
А насупраць, за палянай,
Белы горад палатняны —
Калі вецер набяжыць.
Цэлы горад задрыжыць.



Хатачкі
Ня мазаны,
Да кійкоў
Прывязаны
Рэюць—веюць у прасторы,
Быццам парус той у моры!

Хатачкі
Раскосыя,
Жыхаронкі
Босыя.

Кажуць людзі:—Гэта, брат,
У лагер выехаў Атрад...

Што гэта за лодкі
Па рацэ плывуць,
Што гэта за глоткі
Будзённага пяюць?

Раз... два... тры!—каманды гук.
Восем вёслаў—восем рук.
Заграбаюць
Воду,
Прыбаўляюць
Ходу.

Рулявы, ня сьпі, ня стой!
Пазірай перад сабой!
Языком не мялі,
А то сядзеш на мялі!

Што гэта за галавы
Ў рэчцы тут і там?
Хто рукамі голымі
Зтуль махае нам?

Дзіўная трывога там
З пырханьнем і рогатам!

Кажуць людзі:—Гэта, брат,
Раскупаўся наш Атрад.

Што гэта пад клёнам
Вогнішчам палае?
Хто ў гаі зялёным
Гучна размаўляе?

Гэта там палае
Пень стары, касматы,
Гутарыць з атрадам
Піанэрважаты.

Пра завод
І поле,
Аб рабоце ў школе,
Аб нямецкім камсамоле,
Аб савецкім лёдаколе.
Ды ніяк, ніколі
Усяго ня ўспомніш.

Эх, добрая падпалка
Сасновая кара!
Зацірка закіпела—
Даўно хлябаць пара.



У прысаку бульбёхі
Трашчаць, як кулямёт,
Абвугліліся трохі—
Хай выбачыць жывот!

Гатова! Сук рагаты
Сатлеў на галаўню.
Выхватвайце, рабяты,
Бульбёшыны з агню!

Пераклад з рускай **А. Зіміонкі.**




Апавяданьне П. Рунца
Малюнкі Эйдэльмана

I

Васільку толькі восьмы год, а які ён рухавы, дасьціпны хлопчык! І сьмелы. Іншыя дзеці нізавошта не астануцца дома адны. Усьлед за бацькамі ідуць. У Васілька гэтага няма. Калі яго пакідаюць аднаго дома, дык ён адчувае сябе сталым, дарослым. Галоўнае вольным і самастойным. Тады ён можа займацца чым захоча: майстраваць, будаваць і ніхто яму не перашкаджае.

Сёньня бацькі пайшлі жаць, а Васільку сказалі наглядаць за хатай.

— Глядзі, сынок, нікуды не адлучайся ад дому і не чапай нічога,—навучала маці, выходзячы з хаты.

— Ня бойцеся, я-ж не маленькі,—адказаў Васілёк.

Спакойна пайшлі бацькі на поле.

Васілёк адчуў сябе свабодна, гаспадаром у хаце. Вось ён падышоў да стала і пільна ўтаропіўся ў радыё-прыёмнік. Чорная, як жучок, скрыначка з двума бліскучымі лямпачкамі прывабіла і захапіла Васількову ўвагу. Яго брат Антось, сямігодчык, шмат разоў даваў яму слухаць радыё. Цікава. Гамоняць, іграюць, сьпяваюць. І ня верыцца Васільку, што дзьве круглыя, чорныя пушачкі з блішчастымі „вочкамі“ могуць вырабляць такія дзіўныя штукі.

— Хто гэта гаворыць?..—часам запытае ён.

— Чалавек на перадатачнай станцыі,—адкажа брат.

Васілёк ня верыў. Яму здаецца—у гэтай скрыначцы сядзіць маленечкі чалавечак і вытылінгвае па-рознаму. А ён слухае. І кожны раз Васільку хацелася ўбачыць гэтага дзіўнага чалавечка.

Сёньня Васілёк баязьліва аглядае хату. Акрамя меншага брата Міколкі, нікога няма. Паглядзеў у вакно, і там нікога ня відаць. Значыцца, можна быць сьмелым. Васілёк ціханька сеў на лаву, падагнуўшы пад сябе ногі, і асьцярожна ўзяў у рукі прыёмнік.

— Міколка, пазірай у вакно, каб не найшоў хто,—загадвае меншаму брату Васілёк.

Васілёк некалькі разоў бачыў, як Антось нейкім чынам падымае вечка ў скрыначцы.

Але яму ніяк не ўдаецца. Паспрабаваў з аднаго боку, з другога, патузаў за лямпачкі—нічога ня выходзіць. І чым больш не ўдавалася адкрыць скрыначку, тым больш забірала ахвота дайсьці свайго.

Васілёк і Міколка так аддаліся свайму дасьледваньню, што нават не пачулі, калі ў хату ўвайшоў брат.

— Што-ж ты робіш?—згробшы за плечы, загаварыў над вухам Антось. Васілёк ажно здрыгануўся ад перапалоху і мімаволі выпусьціў з рук прыёмнік.

— Я... я... нічога...—спалохана залепятаў ён.

Антось агледзеў прыёмнік і ўпэўніўшыся, што не папсаваны, ласкава сказаў:

— Няможна табе браць, ты-ж малы яшчэ і нічога не разумееш у гэтай справе; папсаваць можаш...

— Які я малы?—абразіўся Васілёк і скоса зірнуў на брата.—Гэта ты маленькі, калі шкадуеш паглядзець... — папракнуў ён брата за скупасьць.

І ў гэты час у Васільковай галаве нарадзіўся спакусьлівы плян — зараз-жа збудаваць сваё радыё, каб ні ў кога не прасіць.

II

Зьмярканьнем варочаліся Васільковы бацькі з поля.

— Глядзі, што гэта такое?—сказала да бацькі маці, паказваючы на пуню.

— Радыё... бачыш-жа сама,—спакойна адказаў бацька, пазіраючы на дзьве паплеціны, з нацягнутымі ніткамі. Адвод хаваўся ў сярэдзіне пуні.

Бацькі ціханька ўвайшлі ў адрыну. На сене, з прыложанымі да вуха навушнікамі, сядзелі Міколка з Васільком і ўпарта прыслухоўваліся, хацелі злавіць гукі радыё.

— Ну, ты чуеш што?—сур'ёзна пытаў Васілёк.

— Нічога... — адказваў расчараваны Міколка.

— І я ня чую.

— І не пачуеце. Дурненькія вы, хіба-ж па нітцы можна чуць,—ласкава загаварыў бацька. — Злазьце далоў.

Хлапчукі здрыгануліся ад неспадзяванасьці і борзда схавалі „прыёмнік" у сена.

— Злазьце, чаго вы прыціхлі, як вожыкі, вячэраць пойдзем,— мяккім голасам клікала маці.

Неахвотна злазілі дзеці з сена.



— Ну як? Ня вышла нічога?—сьмяецца бацька. У маткі нават злосьць прапала, якая ўспыхнула была на Васілька за тое, што ён сапсаваў столькі шыўных нітак.

— Ай свавольнікі, ай штукары,—круціць маці галавою,—да чаго толькі вы не дадумаецеся.

Ідучы ў хату, бацька сказаў:

— Вось што, Васілёк, табе ўжо восьмы год канчаецца—пара ў школу зьбірацца. Навучышся там грамаце, кнігі цікавыя чытаць станеш і некалі, можа, сапраўднае радыё будаваць будзеш.



# Слон забастоўшчык

Апавяданьне М. Мароза
Малюнкі В. Ціхановіча

## I

Слон надта дужае і разумнае стварэньне. Ён скора прывыкае да людзей і нават сябруе з імі.

У Амэрыцы прывучаюць слана да цяжкой працы.

У аднаго багатага буржуя—лесапрамыслоўцы працавала некалькі сланоў на сплаве.

Сланы выцягвалі з вады вялізарныя, тоўстыя бярвеньні, што важылі да ста пудоў кожнае. Бярвеньні гэтыя яны ўсьцягвалі на пляцформы для адпраўкі ў горад.

Каля кожнага слана быў паганяты.

Паганяты даглядаў слана, паіў яго, чысьціў і кіраваў ім у час работы.

Слон прывыкае больш да паганятага, чым да свайго гаспадара. Бо гаспадар бачыў слана, можа, некалькі разоў, а слон усё сваё доўгае жыцьцё працаваў на яго.

Ужо некалькі гадоў працаваў слон Мільлі на сплаве, а пры ім увесь час за паганятага быў нэгр Жак.

Жак дбайна даглядаў Мільлі, карміў яго добрым сенам і аўсом. Жак ніколі ня біў слана малатком у цемя, як гэта робяць другія паганятыя, і Мільлі надта любіў за гэта свайго паганятага.

Жак спаў у адным памяшканьні з сланом.

Раніцаю, як загудзе гудок, Мільлі сваім хобатам будзіў Жака. Пакуль Жак адзяваўся, Мільлі браў цабэрак і прыносіў для ўмываньня вады. Потым ён асьцярожна браў Жака хобатам пад пахі і садзіў сабе на карак, дзе прымацавана сядло для паганятага.

Яны цэлы дзень працавалі на сплаве. Жак не паганяў яго, а толькі гаварыў да яго ласкавыя, зразумелыя ўжо Мільлі словы.

## II

Паганятым плацілі вельмі мала, і яны вымушаны былі забаставаць. Забастоўшчыкі выбралі Жака ісьці да гаспадара, каб той павялічыў плату. Калі Жак пайшоў да гаспадара, яго арыштавалі.

Забастоўшчыкаў прымусілі стаць на працу, але Жака трымалі ў турме.

Мільлі застаўся без паганятага.

Наглядчык паставіў да слана новага паганятага, але Мільлі ня слухаў яго. Ён стаяў нярухома, як скала, толькі злосна паглядаў на новага паганятага.

Паганяты крычаў на Мільлі, каб той падняў яго ў сядло, але Мільлі і не варушыўся. Тады паганяты паклікаў наглядчыка.

Раззлаваны наглядчык пачаў калоць Мільлі гарачым шылам. Гэта было балюча і ён паслухаў яго, вышаў з памяшканьня.

Наглядчык зарадаваўся. Ён загадаў паганятаму садзіцца і пачынаць работу.

Мільлі ўзяў паганятага пад пахі, так як браў Жака, але не пасадзіў яго на сябе, а трушком пабег да рэчкі. Там Мільлі разоў са два размахнуў новага паганятага і

шпурнуў на сярэдзіну глыбокай рэчкі. Наглядчык прыбег і яшчэ з большай злосьцю пачаў калоць разьзлаванага слана шылам. Але слон і яго шпурнуў у халодныя хвалі.

Так і не маглі супакоіць Мільлі чужыя для яго людзі.

Мільлі ня еў нічога, сумаваў і нікога не дапускаў да сябе тры дні.

Буржую гэта не спадабалася, бо за гэтыя тры дні Мільлі нагрузіў-бы некалькі вагонаў цяжкімі бярвеньнямі.

На чацьверты дзень выпусьцілі Жака, але той ня браўся за работу, ён дамагаўся свайго:

— Павялічце ўсім паганятым плату і заплацеце мне за тры прагуляных дні, тады вазьмуся за работу.

Забастоўшчыкі перамаглі.

А Мільлі, убачыўшы Жака, з радасьцю абняў яго хобатам і прытуліў да сябе.



# ЖНІВО Ў КАЛГАСЕ

Словы А. Якімовіча — Музыка Сакалоўскага







2\. Роўную палоску
Сьледам высьцілае,
Жыта ёй пакорна
Галаву схіляе. } 2 разы.

3\. Коні вараныя
Сыплюць дружнай паркай,
Весела, ахвотна,
Аж гудзіць жняярка. } 2 разы.

4\. Вяжуць жнеі жыта
Сьпелае, буйное.
Працаваць так лёгка
Дружнай грамадою. } 2 разы.

5\. Не баляць ім плечы
І ня ломіць сьпіны:
Памагае ў працы
Нам цяпер машына. } 2 разы.



Апавяданьне В. Каваля
Малюнкі Шахрая

# стрыгун

Ужо даўно змоўклі дружныя піанэрскія песьні. Заціх звонкі сьмех, цікавыя апавяданьні ля кастра. Касьцёр патух. Толькі вугалькі ў цемені—блісь-блісь, як воўчыя вочы ў кустох, як зарніцы на цёмным небе.

Па зямлі ідзе густая, лахматая, як мядзьведзь, ноч і ціха, цёпла дыша.

Даўно сьпіць піанэрскі лагер...

Толькі Лёнька ходзіць паціху навакол школы. Ён сёньня дзяжурны па лагеры. Ён павінен вартаваць спакойны адпачынак дзьвёх соцен піанэраў—гэтых яснавокіх, радасных, харошых рабят. Ад гэтага ў Лёнькі сваеасаблівая гордасьць. Ён ужо некалькі разоў абышоў свой вялікі школьны будынак, які ў цемені зялёных дрэў вырысоўваецца беласьнежнаю гарою.

Трывожна ходзіць Лёнька. Ходзіць і слухае як сьпяваюць начныя птушкі, думае аб зорах, аб сваіх рабятах.

Маўчыць поле, што ўпіраецца ў лагер шырокім майданом, навісьлі, нахіліліся і ня шумяць буйныя каласы. Побач з лагерам—калгас „Перамога". Піанэры сур'ёзнай і вясёлай гурбою часта ходзяць туды. Яны выпускаюць там „Ільлічоўку", чытаюць газэты.

Нядаўна піанэры з іх лагеру наладзілі ў калгасе цікавы спэктакль і Лёнька іграў у п'есе галоўную ролю. Калгасьнікі дужа дзякавалі і прасілі прыходзіць часьцей.

Лёнька прысеў на траву недалёка ад шчыльнай сьцяны збожжа. Ад паху травы ў яго зьлёгку закружылася галава, ён прыплюшчыў вочы і радасна, прыемна ўсьміхнуўся сваім марам...

* * *

Уздрыгнуўшыся ад павеву халаднаватага, прадранішняга ветрыку, Лёнька расплюшчыў вочы. „Я-ж задрамаў", з дакорам падумаў ён пра сябе. Стрэльба ляжала ў яго на каленях. Гучна сьвістаў, пераліваўся салавей. З-за ракі ўстаў туман. Блізілася раніца. Падскокваючы па расістай траве ў садзе, весела прабег нехта з піанэраў.

— Вось недысцыплінаваны які. Усе сьпяць, а ён так рана бегае па садзе,—з дакорам сказаў Лёнька і, прыгледзіўшыся, спазнаў піанэра першага атраду Дзімку.

Лёнька хацеў пайсьці ў сад і адправіць назад яго ў пакой, але, абярнуўшыся, нечакана ўбачыў нейкага чалавека. Прыгнуўшыся, ішоў ён разораю з мяшком за плячыма. У яго была рудая, зьбітая на бок барада, сутулыя здаравенныя плечы. Ён ішоў па мяжы асьцярожнай воўчай ходою, палахліва азіраючыся на кожны шолах лістоў. Неўзабаве ён спыніўся, азірнуўся яшчэ раз ва ўсе бакі і схаваўся ў жыце.

— „Хто гэты дзядзька і што ён тут робіць?"—мільганула ў Лёнькі. І Лёнька другою разораю падпоўз бліжэй да незнаёмага чалавека. А той дастаў ужо вялікія кравецкія ножніцы і ўзяўся спрытна стрыгчы сьпелыя, налітыя буйным зернем каласы. Нарэ-



заныя каласы чалавек клаў у свой мяшок і шчыльна ўціскаў.

Прытаіўшы дыханьне, Лёнька глядзеў і раздумваў, што яму рабіць. Ён устаў на калені і ў гэты час хруснула галінка пад ім. Чалавек азірнуўся, яго вочы мільганулі зялёным злым аганьком. Убачыўшы Лёньку, ён шпарка ўскінуў на плечы туга набіты мяшок і, сагнуўшыся, пабег.

— Стой!—крыкнуў Лёнька і бягом кінуўся за ім.

Чалавек шырока сігаў і сьпяшаў нацянькі ў гай. Лёнька кінуўся яму наперад і крыкнуў яшчэ раз.

— Сто-ой! Сто-ой, а то страляць буду...

Але чалавек ня спыняўся і чым далей, тым больш шпарка бег і бег, высока закідваючы брудныя пяткі босых ног.

— „Можа ўцячы",—падумаў Лёнька і стрэліў угору. Гулкае рэха пракацілася ў гаі за туманом і змоўкла далёка за ракою...

У чалавека зваліўся з плячэй мяшок, ён спыніўся, як укопаны, задрыжэлі ногі і рудая бародка.

— Ты хто такі?—запыхаўшыся спытаў Лёнька.

— Я... я... недалёка тут жыву...—прамармытаў чалавек і вочы яго зноў бліснулі злым аганьком, а потым зноў сталі мутнымі, як вада ў лужыне.

— А што ты, дзядзька, рабіў на калгасным полі?

Дзядзька ўзяў у жменю рудую бародку і асіплым голасам сказаў:

— Я... так сабе хадзіў... жыта аглядаў. Сёлета ў нашым калгасе такі ўраджай добры, а жыта рослае, як лес. Многа, братка, у нашым калгасе хлеба будзе. Проста засыплемся... Хваціць і дзяржаве і сабе...—скоранька гаварыў дзядзька.—Хадзіў я, браток, коні шукаць, ды вось па дарозе травы нарваў,—дадаў дзядзька, скоса паглядаючы на Лёньку.

— Маніш, дзядзька,—горача сказаў Лёнька.—Усё бачыў я... У мяшку ў цябе не трава. Хадзем са мною да нас у лагер: там высьвятлім, хто ты і што ў цябе ў мяшку.

Шаснаццацігадовы, чарнявы, шчуплы на выгляд Лёнька, ніжэй на цэлую галаву за дужага няскладнага мужчыну, стаяў перад ім і, прыжмурыўшы вочы, сьмела глядзеў на яго. Жаласьлівым і ціхім шэптам, выцягнуўшы ўперад каравыя рукі, дзядзька прасіў:

— Таварыш... мяне ня трэба весьці. Ня трэба, таварышок... Не пайду я...

Раптам задрыжэў увесь. Схапіўся за Лёнькіну стрэльбу і стаў вырываць яе. Гэта было так нечакана, што Лёнька гатоў быў выпусьціць стрэльбу з рук, але напружыўся і з ўсёю сілаю ён рвануў стрэльбу да сябе і падставіў ножку. Абодва яны паваліліся на мяккую траву, ад якой пахла кветкамі і расою.

Лёнька бачыў перад сабою аскалены твар, рудую бараду і зялёныя аганькі ў вачох не-



знаёмага чалавека. Ён адчуў боль у руцэ. Вораг быў дужэйшы. Яго кастлявыя пальцы моцна сьціснулі за горла. У Лёнькі закружылася галава. Перад зачыма паплылі і рассыпаліся ранішнія зоры.

— Ой! ой!—са стогнам крыкнуў Лёнька і пачуў за сабою некалькі ног і знаёмы крык.

Гэта Дзімка, пачуўшы стрэл, прыбег з піанэрамі на дапамогу.

* * *

Калі Лёнька ўстаў з зямлі, дзесятак піанэраў ужо шчыльна абкружылі ворага, які парываўся ўцячы.

— Завяжэце яму рукі, рабята!—крыкнуў Лёнька і ўзяў у рукі стрэльбу.

Дзімка і яшчэ двое піанэраў завязалі яму рукі ззаду.

— Цяпер ад нас не ўцячэш.

— Адвядзём яго ў калгас. Астанецеся са мною ўтраіх, а астатнія ідзеце ў лагер і кладзецеся спаць,—загадаў Лёнька.

Калі яго прывялі да старшыні калгасу, пачыналася ясная раніца. Калгасьнікі зьбіраліся выходзіць на жніво.

— У вашым жыце злавілі,—сказаў Лёнька старшыні, паказваючы на незнаёмага чалавека. Лёнька вытрас перад зьдзіўленымі калгасьнікамі мяшок буйных каласоў. І толькі цяпер заўважыў, што з яго параненай рукі капае кроў.

— Так, так, папаўся, стрыгунчык!

— Ён казаў, што ваш калгасьнік.

— Добры калгасьнік! — зарагаталі мужчыны.

— Ды гэта-ж з суседняй вёскі,—адказаў на Лёнькаву заўвагу стары калгасьнік.—Яго летась выгналі там з калгасу за развал. Архіпам Ворсаю яго завуць,—сказаў ён да мужчын.—Няўжо вы ня ведаеце?

— Чулі, чулі пра яго,—некалькі мужчын падалі голас.

— Дык вось яно што!—усклікнуў Лёнька. Архіп Ворса панура маўчаў.

Пакуль чарнявая калгасьніца Анька перавязвала Лёнькаву руку, старшыня калгасу расказваў:

— Такіх шкоднікаў у нас завуць стрыгунамі. Клясавы вораг ня хоча сумленна працаваць. Ён стараецца ўсякімі спосабамі шкодзіць нам: падпальвае, крадзе, стрыжэ збожжа...

— Пад суд яго аддаць за шкодніцтва,—сказаў стары калгасьнік.

— А таксама за замах на нашага важатага,—горача сказаў Дзімка. Добра што я вышаў у садды, пачуўшы стрэл, клікнуў другіх піанэраў на дапамогу Лёньку.

— За гэта па галоўцы не пагладзяць. Суд скажа сваё слова, а вам, піанэрам, яшчэ раз дзякуй ад усіх калгасьнікаў,—сказаў старшыня.—Пра вашу дапамогу мы на сходзе сёньня пагаворым. Прыходзьце ўвечары, як мы з уборкі вернемся.

— Мы к вам яшчэ ўдзень на дапамогу прыдзем. Культурна-масавую работу праводзіць,—сказаў Лёнька.

Калгасьнікі шчыра падзякавалі і разьвіталіся з піанэрамі.



# АД СЯРПА ДА КАМБАЙНА



Такія былі сярпы даўней.

Быў час, калі чалавек розныя прылады і зброю вырабляў з каменя, з дрэва, бо ён ня ведаў нічога аб жалезе. Ня было тады і жніўных прыладаў, падобных на цяперашнія. Каласы са збожжа чалавек зрываў так, як зрываюць ягады і арэхі. Цяжкая і марудная была гэта работа.

Самаю найстарэйшаю прыладаю для жніва зьяўляецца серп. Яму 5—6 тысяч гадоў. Праўда, серп раней ня быў такім, як цяпер. А машына, падобная на нашу жняярку, была ўжо каля дзьвёх тысяч гадоў назад. Яна не знайшла шырокага ўжываньня, бо таннаю тады была рабочая сіла, і таму хутка загінула. І толькі ня так даўно, 150 гадоў таму назад, у Амэрыцы і Англіі сталі вырабляць жняяркі.

Мінуў яшчэ некаторы час, і чалавечы розум прыдумаў для аблягчэньня свае работы новаю машыну—камбайн. Гэта машына адразу жне, малоціць, вее і ссыпае ў мяшкі.



Старажытняя машына-жняярка.



А вось такія машыны-камбайны—працуюць цяпер на нашых палёх.

ЦАНА 50 КАП.

# С Ь М Я Л Я К А



— Вы паслухайце,—пачаў Грышка, якое са мною здарэньне было.

— Раскажы, раскажы,—пачуліся галасы.



— Пайшоў я ў лес па грыбы і напаткаў там мядзьведзя.

— Ну, ты, мусіць, ходу даў як убачыў?



— Не на такога нарваўся,—ганарыцца Грышка. — Я здагадаўся, што трэба зрабіць.



Падышоў мядзьведзь блізка да мяне, а я выпусьціў з рук сагнутую бярэзінку і проста яму... у нос.



Адкінуўся мядзьведзь, а я скоранька схапіў кошык, высыпаў грыбы ды за ім.



Надзеў я кошык на галаву мядзьведзю і туга-туга зьвязаў яго вяроўкаю.



Іду дамоў з грыбамі і мядзьведзя вяду на вяроўцы. Глядзяць на мяне людзі, дзівяцца.



І раптам... немым галасам закрычаў Грышка: „ратуй-уй-це, рату-уй-це“.
— Ня бойся,—сьмяюцца Грышкавы таварышы.—Гэта-ж наш Мурзік зайца выгнаў. Ай Грышка, мядзьведзя не баяўся, а зайца спалохаўся!

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“. Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1942 У ліку 2.675 экз. Галоўлітбел № 895.